(Працяг са стар. 1)

Лапінскі толькі смяяўся, хаця часам закрадалася ў душу нейкая трывога. Але яна гінула, як імгла ў пагодны ранак, па першым кілішку водкі.

Пэўным туманным асеннім днём да Лапінскага прыйшлі два мужчыны. «Кантралёры спулдзельняў, — прад-

Члены камісіі ўсміхнуліся. Непрыемны паварот справы поўнасцю апраўдваў сітуацыю Лапінскага. Здзівіла іх толькі, што ён так доўга не вяртаецца.

Чакалі яны дарма. Лапінскі па-проста ўцёк. Пошукі не далі вынікаў. Камісія, не жадаючы праводзіць кантроль без Лапінскага, апячатала краму і паехала.

Пасля іх выезду, за прылаўкам адчыненай крамы мітусіўся Мечыслаў, ветліва заахвочваючы пакупнікоў.

### КЛОПАТЫ З ЛАПІНСКІМ

Пяць разоў прыязджалі кантралёры, каб правесці перападлік. А ўсё такія, на якіх нельга было разлічваць. Зразуме-

# ДА ПАРЫ ЖБАН ВАДУ НОСІЦЬ

ставіліся яны, — прыехалі з Лап правесці перападлік».

Лапінскі прывітаў іх з вялікім энтузіязмам, быццам гэта былі яго бацькі, якіх ён некалькі год не бачыў.

— Напэўна яшчэ без снедання», — паклапаціўся ён. Ну як жа галоднаму за работу брацца. Пойдзем да мяне, ды хоць чаем пагрэемся.

Але грэліся яны не чаем. Калі пасля снедання ішлі ў краму, крокі іх былі няўпэўненымі, а туман выдаваўся яшчэ больш густым.

Абед яшчэ больш падтрымаў дух кантралёраў. Работа ішла спраўна: Лапінскі гаварыў, што хацеў, паглядаючы на полкі з таварам. А кантралёры запісвалі ўсё тое, што ён гаварыў, гледзячы толькі ў свае паперкі.

Праўда, вясёлы настрой на кароткі час быў папсаваны нахальствам члена крамнага камітэта. Даведаўшыся, што праводзіцца перападлік, ён няпрошаным з'явіўся сюды, дамагаючыся свайго ўдзелу ў перападліку. Не хацеў зразумець, што ён тут лішні. Урэшце, больш моцныя словы зрабілі сваё.

Нецікава было б апісваць, як нашы кантралёры грэліся чаем пасля мазольнай цяжкай працы. Варта толькі ўспомніць, што вяртаючыся дамоў, яны сустрэлі па дарозе свайго старшыню, які неяк дзіўна да іх прыглядаўся, а на іх прывітанні толькі сярдзіта адбуркнуў.

Назаўтра, калі яны прыступілі да работы з'явілася трохасобавая камісія і пачала спраўджаць праведзеную кантралёрамі работу. Намагацца ім не прыйшлося. Камісія хутка выкрыла, што многія тавары, упісаныя ў пратакол, існуюць толькі ў фантазіі Лапінскага. «Прабачце, браточкі, я... толькі на мінутку»,—трымаючыся за жывот сказаў Лапінскі і бомбай выляцеў на двор.

### КЛОПАТЫ ЛАПІНСКАГА

— Памажы браток, і ты ж не мала карыстаўся, — звярнуўся Лапінскі да свайго брата Мечыслава. Адчыні краму і прадавай тавары. Не могуць жа людзі за запалкамі ды мылам за кіламетры хадзіць.

— Падумаеш, які ты добры, пра людзей успомніў. Ты вось лепш падумай, як самому з бяды вылезці.

— У гэтым мая галава. А ты вось адчыні краму, ды й прадавай тавары. Хай пасля гэтага папрабуюць даказаць, што перападлік быў зроблены дрэнна, а камісія добра лічыла тавары. Кантралёры, бароначы сваю скуру, будуць даказваць, што перападлік яны правялі правільна. Спулдзельня вымушана будзе вызначыць новых людзей і правесці перападлік нанава. А тут знаёмыя знойдуцца, і перападлік атрымаецца, як цацка.

— А калі прыйдуць незнаёмыя?

— Дык я буду хворы, мо' нават у бальніцу пападу.

— Лоўка прыдумана. Толькі баюся, каб мне за цябе не папала.

— А што ж табе можа быць! Скажаш — людзі дамагаліся — нават з Прэзідыума грамадскай рады нехта прыходзіў, ну дык хворы брат і прасіў цябе адчыніць краму. Што ж у гэтым дурнога.

У гэты момант на панадворку пачуліся гукі крокаў. Праз акно відаць было трох мужчын, якія ішлі да дзвярэй.

— Кантралёры, — устрывожыўся Лапінскі. Схапіўшы капоту ён сігануў праз акно, якое выхо зіла на гарод. З рэкорднай, як на кандыдата ў бальніцу, хуткасцю ён пёрся праз поле ў непадалёкі лес.

Кантралёры ад'ехалі з нічым.

ла, яны не знаходзілі Лапінскага ў хаце, хоць некаторыя цвёрда сцвярджалі, што бачылі яго праз акно ў памяшканні.

— Хворы ён, паехаў да лекара, а мо' ужо ў бальніцу, бедненькі, напраўлены, — тлумачыла яго жонка.

За шостым разам камісія сама прыступіла да перападліку тавараў. Брат, абражаны, бразнуў аб зямлю ключамі і выйшаў.

— Рабіце што хочаце, я тут не прычым, — заявіў ён. Лапінскі і на гэты раз быў у лекара, а мо' і ў бальніцы.

Перападлік выявіў нястачу тавараў на 140 000 зл.

Цяпер Лапінскім занялася міліцыя.

## „BETESCA“ мае новага старшыню

На апошнім пасяджэнні Прамыслова-гаспадарчага праўлення «Betesca» абмяркоўваліся справы далейшага развіцця гаспадарчых прадпрыемстваў нашага таварыства.

Дагэтуль фактычна нашыя гаспадарчыя прадпрыемствы дзяліліся на дзве часткі: Варшаву і Беласток. Гэтак сама было і з кіраўніцтвам.

У сувязі з планамі далейшага развіцця «Betesci» пастаноўлена паклікаць штатнага старшыню, які б быў каардынатарам усёй гаспадарчай дзейнасці Таварыства.

На пасаду старшыні Прамыслова - гаспадарчага праўлення «Betesca» паклікалі сябру Міхася Баравіка, былога сакратара «Нівы». Намеснікамі старшыні засталіся сябра Пётр Ластаўка, кіраўнік вытворчасці ў Варшаве і сябра Кастусь Сідаровіч, кіраўнік вытворчасці ў Беластоцкім ваяводстве.

З днём 1 снежня г. г. сябра Баравік прыступіў да выконвання абавязкаў.

# У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

(Працяг са стар. 3)

6.

Да генералавага дома прыбыў а гадзіне восьмай, што ў ваенны час лічылася позна. Званок у пярэднія не дзейнічаў. Дзверы не паддаваліся. Запушчаным падворкам я абышоў дом і накіраваўся на кухню. Адчыніла генеральша. Яна была таксама акуратная і стрымная. Відаць адразу, што немцы тут частыя госці, бо дама не здзівілася, ветліва па-нямецку запрасіла:

— Калі ласка, заходзьце! Вы да Крыстыны?

Збіваючыся ад недарэчнай разгубленасці, я пачаў ёй тлумачыць па-польску, хто такі. Дама так мяне старалася ўспомніць, што на хвіліну на яе ілбе выступілі зморшчынкі. Нічога так і не ўспомніўшы, паведаміла:

— Мы вярнуліся з-за граніцы даўно. Цяпер Крыстына працуе ў камендатуры перакладчыцай. Прашу, праходзьце, туды. Там у яе госці!..

Яшчэ ў лагеры я марыў, як прыводжу ў партызаны і раблю Крысю атрадняй перакладчыцай.

— Калі ласка, распранайце шынель і праходзьце! — так нічога і не зразумеўшы, ветліва прапанавала дама.

Тады я бесцырымонна прайшоў калідор і апынуўся ў зале, дзе калісьці Крыся мне іграла. Пуста. Заглянуў у суседні пакой і стаў, як укопаны. Першым кінуўся ў вочы Станеўскі. Узмужнелы,



упэўнены, пабрыты і пастрыжаны, з чорнымі і бліскучымі ад брыльянціна валасамі. З жоўтымі рамнямі, скрыжаванымі на грудзях. У зялёным фрэнчы, сінім савецкага афіцэра галіфе і бліскучых ботах з простымі, як у польскіх афіцэраў заднікамі. З белай павязкай на рукаве, дзе віднеўся чорны гітлераўскі штамп і ненавісныя гатыцкія словы: «Гільфспаліцай».

З ім была Крыся. Яна мела ў сабе штосьці незнаёмае, чужое. Сядзелі за круглым столікам насупраць адзін другога. У руках былі веяры карт. Крыся трымала іх з велікапанскай грацыяй. На губах застыла какетлівая ўсмешка, бо яна, відаць, якраз думала, з каторай карты пахадзіць. Генрых трымаў іх адной рукой, другой узяўся пад бок, крыху нахіліў галаву і з-пад ілба дапытліва ўзіраўся на партнёршу. Яны так былі заняты, што не павярнулі галавы на адчыненыя дзверы, на тварах з'явіліся толькі нездаволеныя грымасы: каму ўздумалася ім перашкодзіць.

Колькі тады за долю секунды ў мяне прайшло перад вачыма і праз душу вобразаў, пачуццяў і думак, божа ты мой! Але я хутка супакоіўся і пагледзеў на пару гэтых людзей, як на чужых. Мне зрабілася крыўдна за людзей з ямы на Парубанку, за жанчыну з дзяцьмі ў незнаёмай вёсцы, у хату якой я прынёс няшчасце. Стала сорамна перад партызанамі, якім не дапамог вярнуцца ў лагер. Радыстка, даведаўшыся, што іду ў Вільню, прымусіла мяне ўзяць свой пісталет. Цяпер успомнілася мне і яна. Мне, як малому ў чужой хаце, раптам захапелася дамоў, захацелася ў партызанскі лагер. Ды трэба ж было неяк выблытацца з гэтай авантуры. Тым больш, што мяне, нарэшце, заўважылі.



— Янэк, ты-ы? — спыталася Крыся пасля хвіліны разгубленага здзіўлення, кідаючы карты на стол і ўстаючы з-за стала. На яе твары адмалявалася адразу і светлая, і трывожная з няўпэўненай радасцю ўсмешка і перапалох.

Я ўвайшоў у пакой, спыніўся, памаўчаў.

— А, гер Барташэвіч! — ускрыкнуў Станеўскі, быццам да блізкага знаёмага, хоць і ў яго голасе пачулася трывога.

— Янэк, заходзь, прашу! — Крыся, авалодаўшы сабой зусім, пайшла насустрач. Але, відаць, позірк у мяне быў надта вымоўны, бо на паўдарозе яна, разгубленая, спынілася, крыху пастаяла і накіравалася да крэсла. Прыставіўшы яго да століка, няўпэўнена і вінавата прапанавала: — Сядай! Можа распранешся?..

Я сеў. Крыся не ведала, што рабіць. Ад таго, відаць, што я не выказваў ахвоты з імі вітацца, яна зусім губляла галаву.

— Го, ты цяпер лейтэнант, віншую! — загаварыла яна, шчыра здзіўленая. У яе голасе і позірку часамі з'яўлялася бязмежная радасць, змешаная са страхам. — Цябе пусцілі ў адпачынак? Надоўга прыехаў? На якім фронце служыш?..

Той факт, што яна раўнадушна прымае мяне за чалавека на службе ў фашыстаў, адразу канчаткова вылечыў мяне ад кахання. Стала шкада: дык вось твой ідэал! Зрабілася лёгка, быццам я пазбыўся нейкай абузы.

— Калі ласка, закурыце! — дабразычліва працягнуў мне Станеўскі срэбны партсігар, а другой рукой застрыкаў залатой запальнічкай.

— Дзякуй, — браў я папяросу, нібы на яе ўзіраўся, а сам думаў, што рабіць.

— Вы якія курыце? Гэта «Экстра»! Прыма сорт,

